# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 34 (1684) ГОД XXXIII БЕЛАСТОК 21 ЖНІЎНЯ 1988 г. ЦАНА 20 зл.





*44 гады Народнай Польшчы і 30 год літаратурнага аб'яднання „Белавежа", — гэтыя два пуцяводныя лозунгі вызначалі сэнс ліпеньскага свята ў Мельніку. Выступае старшыня ГРН Аляксандр Пахвіцэвіч.*

Беларуская народная песня завандравала над Буг у апошнюю нядзелю, 24 ліпеня 1988 года. Завёз яе туды самадзейны хор Беластоцкага гарадскога аддзела БГКТ з нагоды ліпеньскага свята. І быў гэта сапраўды важны пачын.

Трэба аднак ад пачатку. Мельнік — ціхі, каб не сказаць, глухі пасёлак вясковага тыпу, хоць і з багатымі гістарычнымі традыцыямі. Першая пісьмовая звестка пра гэты рускі горад на Бузе датуецца 1240 годам. Аб яго прыналежнасці да ўсходняй славяншчыны сведчыць і той факт, што ўжо ў 1341 годзе была тут збудавана праваслаўная царква.

Асабліва важным у гісторыі Мельніка быў 1501 год. З гэтым годам опалучаны дзве гістарычныя падзеі: **„Мельніцкі акт 1501 года"** і **„Мельніцкі прывілей 1501 года"**. Мельніцкім актам 1501 года вялікі князь літоўскі і польскі кароль Аляксандр далучаў Вялікае княства Літоўскае да Польскага Каралеўства ў адзіную дзяржаву пад каралеўскай уладай. Была гэта беспаспяховая яшчэ спроба уніі Літвы і Польшчы. Мельніцкі прывілей 1501 года канчаткова і на многія стагоддзі замацаваў магнацка-шляхецкую анархію ў Каралеўстве Польскім. *„Нічога пра нас без нас"*, — так найкарацей выяўляўся дух Мельніцкай канстытуцыі, зацверджанай каралём Аляксандрам.

Доўгі час Мельнік быў цэнтрам каралеўскага старастава, якое ахоплівала амаль поўнасцю тэрыторыю нядаўняга Сямяціцкага павета. Гарадскія правы адабраны Мельніку ў 1934 годзе.

Цяпер Мельнік — гэта цэнтр сельскагаспадарчай гміны, на тэрыторыі якой знаходзіцца 15 вёсак, але толькі 13 салэцтваў. Начальнікам гміны недзе ад 1975 года з'яўляецца **Ян Здунэвіч**, чалавек вопытны і засядзелы ў Мельніку. Гмінным камітэтам




ПАРП у гэтым пасёлку кіруе **Анатоль Бонда**, а **Станіслаў Табота** з'яўляецца старшынёю гміннага камітэта Аб'яднанага людовага стронніцтва. Нельга не сказаць і пра **Аляксандра Пахвіцэвіча**. Працуе ён на нафтаправодзе ў Адамове, з'яўляецца там намеснікам загадчыка, але гэта чалавек, так сказаць, грамадскі, узначальвае Гмінную раду нарадовую ў Мельніку.

Як у многіх іншых гмінах паўднёва-ўсходняй зоны Беластоцкага ваяводства, самай набалелай праблемай з'яўляецца і ў Мельніцкай гміне эканамічна апраўданае выкарыстанне дзяржаўнага фонда зямлі. У Мельніку ўтвараецца новая дзяржаўная гаспадарка на плошчы 1700 га. На дапамогу ў наладжванні сельскагаспадарчай вытворчасці ў новым ПГР-ы паспяшалася моладзь. Запушчаная падмельніцкая зямля вяртаецца да жыцця, дзякуючы добраналаджанай і руплівай іх працы. Маладыя людзі шмат таксама папрацавалі ў час падрыхтоўкі да ліпеньскага свята. Гэта яны высыпалі гравіем дарогу ад галоўнай мельніцкай вуліцы — да Буга, у Тапаліна, дзе традыцыйна наладжваюцца ў Мельніку ўсялякія народныя святкаванні.

Тутэйшыя ўлады ахвотна ўспрынялі прапанову прадстаўнікоў БГКТ, каб традыцыйнае штогадовае ліпеньскае свята спалучыць на гэты раз з народным беларускім фэстам і гэтым чынам прыгадаць тутэйшаму насельніцтву аб існаванні, дасягненнях і намаганнях БГКТ — адзінай грамадскай арганізацыі беларусаў у Польшчы, адзначыць юбілей, 30-годдзе літаратурнага аб'яднання „Белавежа".

І настаў гэты абедні час парнай ліпеньскай нядзелі. Мы апынуліся над Бугам. На беразе загаралі турысты.

І тады я падумаў аб колішніх арэлях, якія па гэтай рэчцы

(Працяг на стар. 6)

БЯРОЗАЎКА-БЕЛАСТОК

## САДРУЖНАСЦЬ СЯБРОЎ

У Лідскім раёне паблізу сівога Нёмана раскінуўся прыгожы пасёлак мясцовых шклавараў Бярозаўка. Жыве ў мястэчку каля дзесяці тысяч чалавек. Пераважная большасць працуючага насельніцтва звязана з вядомым у Беларусі і ў Савецкім Саюзе ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга шклозаводам „Нёман". Дарэчы, старажылы гарадка і сёння, як і сто гадоў назад, называюць часта і прадпрыемства, і пасёлак гутай.

У парткоме шклозавода на бачным месцы знаходзіцца скромная, але дарагая бярозаўскім шклаварам ваза. Кідаецца ў вочы надпіс: „У знак садружнасці калектыву шклозавода „Нёман" ад працаўнікоў шклозавода „Беласток". Чэрвень 1987 года".

Цёпла і радасна прымалі майстры нёманскага крышталю сваіх польскіх сяброў. Дэлегацыя з Беластока на чале з сакратаром парткома Славамірам Маліба цэлы тыдзень прабывала ў Бярозаўцы. Госці пазнаёміліся ў цэхах гуты з тэхналогіяй вытворчасці шкловырабаў, праявілі цікавасць да сацыяльнага развіцця пасёлка.

Дасягненні нёманцаў, скажам без перабольшвання, уразілі іх беластоцкіх калег. Асабліва спадабаўся беластаччанам пабудаваны нядаўна побач з бацькам-Нёманам завадскі прафілакторый-санаторый. Сябрам з Беластока спадабаліся таксама новыя жылыя дамы і інтэрнаты для шклавараў, шыкоўныя магазіны і Дом быту, адмысловы аўтавакзал. Словам, разам з гаспадарамі радаваліся добрым пераменам у Бярозаўцы.

Садружнасць шклозаводаў „Нёман" і „Беласток" налічвае больш 20 гадоў. За гэты час калектывы нямала перанялі каштоўнага адзін у другога. Неацэннае значэнне маюць кантакты сяброў для інтэрнацыянальнага выхавання працоўных, развіцця і ўмацавання паміж імі дружбы і ўзаемадапамогі. На сустрэчах у Бярозаўцы і Беластоку людзі шчыра гавораць аб праблемах нашых народаў і краін, аб месцы рабочага чалавека ў будаўніцтве новага, лепшага жыцця.

Летась, напрыклад, у Беластоку пабывала дэлегацыя нёманцаў на чале з дырэктарам завода М. Ф. Пашуком. Шмат цікавага і карыснага пабачылі прад-

(Працяг на стар. 5)

# ПРЫСУТНАСЦЬ

студэнцкая старонка

## АДБЫЎСЯ РЭЙД

Адбыўся чарговы рэйд „Бацькаўшчына“, арганізаваны беларускімі студэнтамі. Як і ў папярэднія гады, рэйд мог здзейсніцца дзякуючы дапамозе многіх людзей. Іх добразычлівасць дала магчымасць наладзіць неабходныя ўмовы жыцця для ўдзельнікаў, а таксама дазволіла рэалізаваць праграму рэйду. Самі ж арганізатары не маюць ніякіх фінансаў, нават не могуць выступаць як фармальная арганізацыя, што ў нашым штодзённым збюракратызаваным жыцці магло бы быць вялікай перашкодай. „Ёсць людзі, няма паперы“. — скажам, адварочваючы вядомую прымаўку. Тым больш здзіўляе і цешыць, што і ў гэтай дзялянцы ўсё пайшло добра, зноў дзякуючы зычлівым людзям.

Не маючы ніякай іншай магчымасці пераказаць нашую ўдзячнасць, карыстаемся студэнцкай старонкай. Шчыра выказваем словы падзякі чарговым асобам: настаяцелю праваслаўнай парафіі ў Драгічыне а. Забродскаму і ягонай жонцы за начлег і добрую атмасферу, прафесару каталіцкай семінарыі ў Драгічыне а. Бароўскаму за цікавы даклад і дыскусію, працаўніку міліцыйнай управы там жа за дапамогу ў „фармальных“ справах.

У Сямяцічах карысталіся мы гасцінай Гарадскога дома культуры. Дзякуем яго кіраўніку, а асабліва п. Анне Грыб, працаўніку Гарадской управы. Рэдактару Марку Карпу з Варшавы дзякуем за даклад і дыскусію і спадзяемся на бліжэйшае знаёмства.

За начлег у вёсцы Мутная каля Мельніка дзякуем нашай сяброўцы Крысі Сульжык і яе сям'і, а таксама ўсім жыхарам вёскі, асабліва моладзі за добрую атмасферу.

Кіраўніцтву пачатковай школы ў Такарах дзякуем за начлег, а хлопцам з вёскі Вілянова за дыскусію і непахісную нацыянальную паставу, што прыдало нам многа радасці і аптымізму. За даклад на радзіме праф. Усевалада Ігнатоўскага дзякуем доктару Юрку Туронку з Варшавы, якога, зрэшты, з радасцю прынялі мы ў рады ўдзельнікаў рэйду, пасля таго, як ішоў ён з намі ў Нурэц.

За гасціну ў Нурцы дзякуем мясцовым пажарнікам, а перш за ўсё сімпатычнай Гені Семянюк, загадчыцы буфета тамашнята рэстарана.

За магчымасць паглядзець праваслаўны манастыр на Грабарцы дзякуем паважаным манашкам. Дзяўчатам з круга праваслаўнай моладзі ўдзячны мы за кашу і кампот, і хаця прынялі яны нас з вялікай насцярожанасцю, як „нацыяналістаў і атэістаў“, верым, што сустрэча дазволіла змяніць крыху іх уяўленне пра беларускі студэнцкі рух.

Словы падзякі за начлег у Чаромсе належны нашай сяброўцы Дануце Шатыловіч і яе сям'і, а ўсёй моладзі дзякуем за ўдзел у вогнішчы. За цікавы даклад дзякуем Алегу Латышонку з Кракава, нашаму сябру і пастаяннаму ўдзельніку студэнцкіх мерапрыемстваў. Такім самым удзельнікам з'яўляецца і Лёнік Тарасэвіч, якому ўдзячны мы за вясёлую атмасферу, якую прывозіў на рэйд, даязджаючы з далёкага Гарадка.

Асаблівая падзяка належна нашым сябрам — музыкантам: Элі Бэзюк, Аліку Петручуку і Колю Фіёніку..

За фінансавую падтрымку дзякуем аддзелу Згуртавання вясковай моладзі (ZMW) Беластоцкай палітэхнікі, а ў прыватнасці сябру Юрку Баброўскаму.

Вялікае дзякуй усім жыхарам вёсак, праз якія мы хадзілі. З характэрнай нашаму народу гасціннасцю, частавалі яны нас яблыкамі, дапамагалі раздабываць хлеб, паілі малаком і вадою і, што самае важнае, прымалі добрым словам.

Дзякуем таксама ўсім удзельнікам рэйду за пачуццё адказнасці, за салідарнасць і адданасць беларускай справе.

Да пабачэння праз год на „Бацькаўшчыне-6“.

**Арганізатары**

---

**МОЛАДА, СУЧАСНА, ПА-БЕЛАРУСКУ**

## ·РЭЙ· in rock

Назву гэтага артыкула можна асэнсаваць па-рознаму. Прыкладам, „група „Рэй“ у руху“ альбо „Рэй“ і яе месца ў „рок-музыцы“ ці „Рэй“ у стылістыцы і тэмпе рока“. Ведаючы, што гаворка ідзе пра беларускую рок-плынь, напрашваецца і такое значэнне — „ажыўленне ў року“. І г.д.

Мы не будзем акцэнтаваць увагу на якімсьці адным значэнні, бо малады мінскі рок-гурт „Рэй“ і сам яшчэ развіваецца, хоць і знайшоў свой змест, сваю форму, і ажыўленне ўносіць у нацыянальную рок-плынь, і даволі прыкметнай фігурай стаў ужо сярод моладзі.

Разам гітарысты Ілья Шэўчык і Юрась Андросік, барабаншчык Юрась Цынкевіч, басіст Мікола Машанскі, скрыпач, вакаліст і кампазітар Андрэй Аляксандраў сабраліся не так даўно — толькі ў 1987 годзе. Але за плячыма ў іх ужо была і ігра ў самадзейных ансамблях, а ў некаторых — і мэтанакіраваная музычная адукацыя.

Даволі хутка звярнулі ў сваёй творчасці ўвагу на стан беларускай нацыянальнай культуры, якая развальвалася пад ударамі ваяўнічага мяшчанства, пад ударамі здрады нават дзеячоў мастацтва, якім сам Бог загадваў трымаць рэй народнага духу і культуры, а яны самі апускаліся да ўзроўню мяшчанства. Зусім меў рацыю сатырык, бічуючы эпоху:

Калі друг і артыст народны  
Не знаў і двух народных слоў,  
Затое меў тут харч нязводны  
І ўволю цешыўся з аслоў.

Менавіта тады, у лютым 1988 рок-гурт робіць кардынальны выбар, мяняючы назву і мову. Замест рускамоўнага „Рэзананса“ з'яўляецца „Рэй“ і пачынае ствараць хэві-авангард па-беларуску.

Дарэчы, вакаліст групы па нацыянальнасці рускі, але ён зусім не стаў перашкодай у духоўным перараджэнні групы. Больш таго, Андрэй не проста завучвае тэксты беларускія, а цудоўна і нязмушана вядзе праграму канцэрта, лёгка размаўляе па-беларуску з музыкамі, журналістамі. Роўна як, зрэшты, і яго сябры — Мікола, Ілья і абодва Юрасі. Яны разумеюць, што надта доўга панавала адваротнае становішча, якое па сутнасці знішчала адну са старажытнейшых славянскіх культур. Не да твару мастаку спрыяць гэтаму.



Адметна, што вышэйназваны пералом павярнуў групу і да нацыянальнадухоўнага зместу (хаця спачатку яны папросту папрасілі маладога паэта Едруся Акуліна перакласці старыя тэксты, што апошні зрабіў, аднак на вышэйшым узроўні). Дык вось, адна з апошніх песень — „Няміга“ — на прыкладзе мінскай ракі, апісанай яшчэ ў „Слове пра паход Ігаравы“, а цяпер загнанай у трубу, пад асфальт аднайменнай вуліцы, ставіць вострае пытанне аб страце беларускім народам сваіх духоўных каштоўнасцей. Вастрыня музыкі „Рэя“ і вершаў Ірыны Багдановіч пераконваюць:

Князёўна, гарэза, малая  
Блакітная стужка зямлі,  
Цябе, трапяткая, жывая,  
За што затачылі, звялі?  
Нашто? Каб не ведаў нашчадак  
Адкуль ён і род наш адкуль?  
Няміга, ты памяць, пачатак,  
Прамацерка нашых матуль.

Гэта думкі сённяшніх маладых беларусаў. Музыкам у сярэднім 20-21 год, паэтэсе — не болей таго. „Хіпары“, „хуліганьё“, „металюгі“, „шалапуты“, — яны аказаліся духоўна значна вышэй за тых, хто іх ушчуваў.

Ужо ў маі 1988 года „Рэй“ запрашаюць прыняць удзел у свяце газеты „Чырвоная змена“ на Асіповіччыне. Тады ж давялося і мне ўпершыню пабачыць калектыў на вялікай сцэне. Гледачы не раз выклікалі тую ці іншую песню на біс. Карысталася поспехам і адна з першых кампазіцый — „Голас вякоў“, якая малявала лёс музыканта ў гістарычнай рэтраспектыве. Забароны, неразуменне праследвалі не толькі рок-музыкантаў. Вось, паслухайце:

Чую ізноў голас вякоў.  
Тысячы год — гора і страх.  
Крыкі людзей, звон ланцугоў  
Не заглушыў Моцарт і Бах.  
Год караван — нібы туман  
Знік, а ў душы стынь.  
Толькі ўздыхне стары арган,  
Крыкнуць музыку: „Кінь!“

Першы поспех заўсёды мае схільнасць даваць плады. І ўжо хутка пасля „чырвоназменаўскага“ адкрыцця „Рэй“ выступае на адной сцэне з такімі зоркамі савецкага рока, як уфімскі „ДДТ“ ленінградскі „Пікнік“, мінская „Мроя“, навапалацкі „Рокаш“. Гэта адбываецца ў Мінску на рок-фэсце „Свята на Доўгім бродзе“. І тут жа — запрашэнне ў студыю Беларускага радыё для запісу некалькіх кампазіцый. Потым — удзел у праграме

(Працяг на стар. 4)

(Працяг са стар. 3)

## „REJ“ — IN ROCK

„Тры колеры“, якую традыцыйна праводзіць рок-клуб „Няміга“ (у яго склад нядаўна прынялі і „Рэй“).

Зразумела, аўтарскі стылістычны аптымізм тут хутка растаяў бы ў вачах чытача, каб ён пабываў у тым пакойчыку (5×3 м), дзе маладзёжны клуб Беларускага політэхнічнага інстытута выдзеліў ім месца для рэпетыцый, для творчасці. І ўсё ж падставы для аптымізму ёсць — у выніках творчасці, у маланкавым пранікненні ў таямніцы мастацтва (многія ж музыкі назаўсёды застаюцца хай сабе і выдатнымі, але рамеснікамі, так і не зразумеўшы мастацтва).

„Рэй“ задае тон (прабачце за таўталогію).

**Вітаўт Мартыненка**

## Свойскія малюнкі



*Старыя дамы ў Плёсках. Малюнак У. Петрука.*

## Што ў хлопцаў з Рыбалаў

На нашым здымку ва ўсёй сваёй красе „Хлопцы-рыбалоўцы“, адзіны мужчынскі вакальны калектыў на Беласточчыне. Беларускі. Хлопцы-пажарнікі — слаўныя галасамі, песнямі і энергіяй. Усе апошнія гады іх удзел у конкурсе „Беларуская песня“ канчаўся заваяваннем першага месца. Усе апошнія гады ў гэтым конкурсе хлопцы з Рыбалаў выступаюць з новымі — сваімі ўласнымі песнямі, у якіх расказваюць пра традыцыі і жыццё роднага кавалка зямлі, наднарвянскай зямлі. Іх песні закранаюць самыя актуальныя праблемы. Так пару гадоў таму яны прадставілі песню „Чорная хмара“ пра расстрэл гітлераўцамі жыхароў вёскі Райск. У мінулым годзе зноў была песня пра загінуўшых у баях „на Надатках“ савецкіх салдат у трэці дзень вайны — 25 чэрвеня 1941 г.

І вось, многія, хто чуў гэтую песню і запомніў яе глыбокі хвалюючы змест, быў моцна расчараваны, што „Хлопцы-рыбалоўцы“ не заспявалі яе на Свяце беларускай культуры ў Беластоку, 26 чэрвеня, у гадавіну таго трагічнага здарэння. Здаецца, тут выступіў арганізацыйны недагляд канцэрту, які моцна расцягнуўся ў часе і потым трэба было яго скарачаць. Аднак не варта скарачаць такіх калектываў, як хлопцы з Рыбалаў, якіх заўсёды ахвотна слухае кожная публіка. Варта яшчэ прыпомніць, што тэкст і мелодыю рыбалаўскіх песень „укладае“ адзін з іх — Мікалай Ігнацюк, а ўжо на галасы іх распісвае шматгадовы музычны кіраўнік Пётр Нявінскі.

Мы наведалі Колю Ігнацюка. Засталі пры хаце. Кляпаў касу.

Нас цікавіла, што чуваць новага ў справе помніка загінуўшым над Нарвай савецкім воінам. Ініцыятыва ўзвядзення такога помніка выйшла якраз ад калектыву. Яны нават знайшлі каменныя пліты, якія прапануюць выкарыстаць для гэтага помніка.

— У Беластоку нам сказалі, — адказвае Коля Ігнацюк, — што патрэбен дазвол ад ваяводскіх улад, бо гэта важны помнік. Нам сказалі ў Беластоку таксама, што астанкі тых салдатаў былі перавезены ў Бельск і там пахаваны. У Бельску на могілках ёсць помнік савецкім салдатам. Я ім выясніў, што эксгумацыя ў Рыбалах была хутчэй сімвалічнай, чым фактычнай, і загінуўшыя тут на трэці дзень вайны салдаты засталіся ў нас ляжаць на нарвянскім беразе „на Надатках“. Там і дзеці, і дарослыя па сёння знаходзяць салдацкія астанкі. Там школьнікі парабілі могілкі, якімі апякуюцца. Там жа загінуў, бадай, цэлы полк! А па-другое, у Бельску на помніку няма ніякага надпісу, што там пахаваны савецкія салдаты, загінуўшыя ў 1941 годзе, а напісана, што ўсе там пахаваныя загінулі ў 1944 г. Так што наша справа ясная, актуальная і важная.

Коля Ігнацюк у сваёй песні напісаў, што ўсе загінулі ў той страшны дзень 25 чэрвеня. Потым выявілася, што адзін уцалеў. Яго, раненага, выхадзіла адна жанчына з Канюкоў, якую па-вясковаму звалі Кірылоўскай. Выжыўшы салдат Аркадзь Фельдман пабываў у ліпені г.г. у Канюках у сям'і Уладзіміра Наумюка, сына жанчыны, якая знайшла, апекавалася і лячыла раненага салдата.

Аказваецца, Аркадзь Фельдман быў у групе, якая па заданню адыйшла ад Рыбалаў у бок Канюкоў. Іх там таксама разбілі, але яго, раненага, знайшла беларуская жанчына. Шэсць тыдняў ён жыў у шалашы, а з вёскі прыносілі яму есці і лячылі раны.

— Як падабалася яму ідэя помніка? — пытаю ў Колі.

— Падабаецца яму. Казаў, што гэта добрая і прыгожая ідэя. Мы ў сваю чаргу будзем старацца, каб у 50-годдзе тае бітвы над Нарвай помнік там адкрыць. Толькі мы ставім адзін варунак надпісы на помніку хочам, каб былі па-беларуску. Цяпер шукаем добрага каменшчыка. Можа вы знаеце такога?

А можа чытачы знаюць добрага каменшчыка і памогуць хлопцам у Рыбалах?

(вв)

**Фота С. Грынявіцкага**



*Злева: Уладзімір Бароўскі, Уладзімір Супрунюк, Мікалай Ігнацюк, Дзямян Лукашук, Васіль Кірылюк, Іван Клімюк, Уладзімір Цалпінскі, Пётр Мартынюк. Здымак зроблены ў час цэнтральнага агляду конкурсу „Беларуская песня — 88“ на сцэне Беластоцкай філармоніі.*

# Капліца Арханёла Міхаіла ў Войшках



*Капліца ў Войшках.* *Мал. Юркі Федарука.*

У царкоўным летапісе Рыбалаўскага прыхода чытаем запіс пра існаванне каля вёскі Войшкі (назва гэтая вядомая ад 1661 года, праўдападобна ад імя Войслаў — воін слаўны) двух могілак. Першыя (да сёння захавалася назва ўрочышча — „Цэрквіска“) знаходзяцца паўкіламетра на паўночны ўсход ад вёскі ля дарогі Войшкі — Рыбалы; другія ляжаць на высокім беразе ракі Нарвы недалёка ад дарогі да Заечкаў. Праўдападобна, гэтыя другія могілкі былі месцам, дзе вельмі даўно была пабудавана царква. У летапісе чытаем, што ў час абходу свянчэння палёў на могілках зрабілі „прывал“ і абед.

Бачым, што на невялікай адлегласці ўздоўж ракі Нарвы былі цэрквы ў мясцовасцях Цялушкі (Свянціцелі), Канюкі (Рыбаловы), Рыбалы (Антонавічы — урочышча „Цэрквіска“), Войшкі (могілкі ля ракі) і Кажаны (царква тут і сёння стаіць некалькі дзесяткаў метраў ад ракі).

Гасцінец даўней праходзіў з Бельска ў Беласток якраз праз Войшкі, дзе была паштовая станцыя. Як дарога, так і станцыя адыгрывалі вялікую ролю, пакуль не была пабудавана чыгунка Беласток — Седльцы праз Бельск. Ад 1916 г. галоўная дарога абмінула Войшкі і, пераходзячы Нарву, пайшла праз Рыбалы, Заблудаў. Войшкі засталіся збоку.

У 1864 г. граф Міхаіл Мураўёў даў 500 рублёў на пабудову ў Войшках мураванай капліцы. Высвяцілі яе ўрачыста 17 кастрычніка 1865 г., называючы імем св. Міхаіла Арханёла. Вакол зрабілі агароджу з каменя. У цэнтральным месцы ў капліцы павесілі ікону Арх. Міхаіла. Дату 6 верасня (ст.ст.) пачалі святкаваць як дзень памяці цуду Архістрата Міхаіла ў Хонах.

У 30-ыя гады капліцу накрылі бляхай. Пастановай гродзенскага епіскапа ад 16.10.1931 г. было дазволена рыбалаўскаму духавенству адслужыць тут літургію. Прынялося праводзіць багаслужбы ў панядзелкі пасля нядзелі св. Фамы (памінальніца), у чацвер пасля Тройцы (абходная абедня), а ад 1942 года — у пятніцу пасля Тройцы ўстаноўлена памінанне расстраляных нямецкімі акупантамі жыхароў вёскі. У далейшым служыцца літургія ў дзень цуду Архістрата Міхаіла.

Капліца аказалася цеснай. У 1980-81 г. жыхары вёскі рашылі яе разбудаваць. Да заходняй сцяны было дабудавана месца для людзей, а сама першапачатковая капліца засталася як алтар. Служба праходзіць тут ва ўспомненыя ўстаноўленыя традыцыяй дні, а таксама па заказах людзей. Войшкаўцы з давен-даўна святкуюць прыхадское свята Кажанскай царквы — Прачыстую і ў гэты дзень рыхтуюць у хатах гасціну.

У апошнія гады дзень св. Міхаіла святкуецца 8 (21) лістапада. Літургія служыцца па заказах людзей, а вячэрні — у першую нядзелю кожнага месяца. Людзі купілі ў капліцу літургічнае начынне і напрастольны крыж з Грэцыі.

**Р. С.**



*План капліцы. Мал. Б. Ф. Рудкоўскіна.*

## Сябры „Нівы“

Будучы ў Пасынках, пацікавіўся я чытальніцтвам „Нівы“ ў гэтым наваколлі. Начальнік мясцовай пошты п. Кучынскі паінфармаваў, што ў Пасынках гадавую падпіску „Нівы“ аформіла 23 асобы, у Піліпках — 17, Катлах — 17, Саках — 9. У ліпені было 92 падпісчыкі. Кожную пятніцу лістаносец Мікалай Федарук разносіць 53, а Яўген Весялоўскі — 39 экземпляраў нашай газеты.

**Андрэй Гаўрылюк**




**(Працяг са стар. 1)**

гналі калісьці свае плыты, гружаныя дрэвам, дзёгцем і збожжам. Гэта іх песні несліся хвалям наўздагон, вярталіся шматгалосным рэхам, у якім чулася туга па родным краі, па бацькоўскай хаце недзе на Палессі, словам, па беларускай старонцы...

І зноў у зялёным Тапаліне, дзе сапраўды растуць паднебныя таполі, паплылі родныя песні, адгукнуліся ў іскрыстым хваляванні вадзяной тоні, закружыліся над высокім чыстым і сонечным небам, як хуткагонкія ластаўкі — вестуны вясны.

Найперш ад імя мясцовых улад выступіў старшыня ГРН у Мельніку Аляксандр Пахвіцэвіч, а затым узяў слова старшыня ГП БГКТ д-р Аляксандр Баршчэўскі. Усхвалявана і перакануўча гаварыў ён аб надзённых справах беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы, аб становішчы беларусаў у гэтым кутку Надбужжа.

— Я не ўсё разумею, аб чым ён гаворыць, але гэты чалавек выступае прыгожа! — захаплялася маладая ўдзельніца гэтых святкаванняў.

Канцэрт мастацкай самадзейнасці павяла **Валянціна Ласкевіч**, як заўсёды, інтэлігентна, бойка, з гумарам. Яна, **Сцяпан Копа** з неадлучным сваім гармонікам ды яшчэ **Юрка Налівайка** — гэты цудоўны, нястомны чалавек з лесу пад Валілямі, гэта жамчужная аздоба беластоцкіх самадзейнікаў. І ўсе яны разам не шкадавалі ні сваіх звонкіх галасоў, ні чулых сэрцаў, каб радаваць песнямі ўдзельнікаў мельніцкага фэста.



*Міхась Вішанка, інспектар ГП БГКТ на Сямяціцкі раён, наладзіў кніжную латарэю выдавецтваў БГКТ.*

Спеў беластоцкіх самадзейнікаў з кожнай хвілінай прываблівае ўсё больш і больш турыстаў ды мясцовых жыхароў. Было каму спяваць і ад каго ўспрымаць падзяку шчырымі воплескамі.

У гэтым натоўпе людзей прыкмеціў я дзве жанчыны сярэдняга ўзросту. Адна з іх неяк прывабна да мяне ўсміхнулася. У яе руках заўважыў я сёлетні „Беларускі каляндар“. Яна выйграла яго на кніжнай латарэі, якую наладзіў над Бугам **Міхась Вішанка**. Нарыхтаваў ён, гаварыў мне, білетаў больш як на 7 тысяч зл. і амаль усе распрадаў. Гэты заслужаны дзеяч БГКТ пацеў і смажыўся на невыносліўым сонцы, але з месца не адыходзіў — прапанаваў, захвочваў, прадаваў...

А з эстрады ўсё плылі і плылі то беларускія, то ўкраінскія, то рускія і польскія народныя песні.

— Я не ўсё разумею, — прызналася мне сяброўка жанчыны з „Беларускім календаром“ у руках, — але спеў гэты мне вельмі падабаецца.

Аказалася, што яна аж з-пад Шчэціна, у Мельніку нядаўна, прыехала на радзіму мужа.

# ЗОРКА
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



Алена Мімрык
Дзіяна Энціна


## ТАМ, ДЗЕ ЦЯЧЭ РАКА КОНГА

**Працяг (5)**

**МІКА**

Сёння нядзеля. Усе рады гэтаму дню, а Тамба-Тамба адчувае сябе няшчасным: у яго прапаў сабака Міка, якога на нейкі час пакінула яму настаўніца з Культурнага цэнтра, ад'язджаючы ў адпачынак.

„Куды ісці, дзе шукаць?" — думае хлопчык.

Вечарам Тамба-Тамба гуляў з сабакам. Сустрэўшы суседскага хлопчыка, загаварыўся з ім, а Міка нечакана рвануўся, павадок выслізнуў з рукі, і сабака, апынуўшыся на волі, памчаўся наперад. Тамба-Тамба бег услед за ім і крычаў:

— Міка, да мяне! Міка, вярніся!

Было зусім цёмна. Ужо даўно на цэнтральных вуліцах запаліліся ліхтары. Пад кожным з іх, як заўсёды, сядзелі вучні з падручнікамі, сшыткамі і рыхтавалі ўрокі, бо дома ў іх не было электрычнасці.

Пачуўшы крыкі Тамба-Тамба, які гнаўся за сабакам, яны кідалі свае сшыткі і кніжкі проста на тратуар і далучаліся да хлопчыка.

Цяпер за вялікім сабакам з доўгімі вушамі, у якога на баку матляўся павадок, бег Тамба-Тамба, за ім нesліся дзеці і ўсе крычалі:

— Трымай сабаку! Хапай за павадок!

Неўзабаве Міка павярнуў у маленькую цёмную вулачку і знік.

Тамба ў знямозе спыніўся. Слёзы цяклі з вачэй. Хлопчыка акружылі незнаёмыя дзеці, распытвалі, што здарылася, чаму ўцёк сабака. Але Тамба-Тамба маўчаў, і яны пачалі вяртацца да сваіх кінутых падручнікаў і сшыткаў, дакараючы адзін аднага за тое, што не ўдалося дапамагчы злавіць сабаку.

Гэта было ўчора, а сёння Тамба-Тамба спрабаваў нешта прыдумаць, каб адшукаць Міку.

„Трэба схадзіць да Фернанда, ён паможа. Але ж Фернанда кожную нядзелю едзе з татам на бераг Конга лавіць рыбу. Лепш пайду да Мамба".

І ён пайшоў да сябра. Але па дарозе ўспомніў, што да Мамба прыехалі з вёскі сваякі і хлопчык, напэўна, заняты. Значыць, трэба ісці да Волі, бо Элен ніколі нікому не дапамагла.

(Працяг на стар. 10)



*П'еса „Мікітаў лапаць" у пастаноўцы вучняў з Барысаўкі. Кіруе тэатральным калектывам у гэтай школе настаўніца Валянціна Дзмітрук.*
*Фота Я. Чэрнякевіч.*

Віктар Швед

### РЭЛІКВІІ

*Дзедку ўнук малы пытае*
*У клуні прасторнай:*
*— Чаму, дзедка, тут трымаеш*
*Серп, і цэп, і жорны?*

*Растлумачыў дзедка Сашу*
*З настроем прыўзнятым:*
*— Гэта ж ёсць рэлікты нашы,*
*Вялікая святасць.*

*Імі жалі, малацілі,*
*І малолі зёрны.*
*Каб да працы быць у сіле —*
*Елі хлеб наш чорны.*

### ЦІ ЯЕК НАПЭЎНА НЕ ЗНОСЯЦЬ ПЕЎНІ?

*Сяржа просіць сястру Зосю:*
*— Згодна з птушынаю натурай*
*Скажы, ці пеўні яйкі зносяць,*
*Ці зносяць яйкі толькі куры?*

*— Наіўны, братка, ты напэўна,*
*Калі пляцеш такія байкі.*
*Запамятай: ніколі пеўні,*
*Ды толькі куры зносяць яйкі.*

*— Калі ж не зносіць певень яек, —*
*Сцвердзіў упэўнена Сяржа, —*
*Тады скажы мне, дарагая,*
*Зносіць не хоча, ці не можа?*



*Хлопцы з Дубічаў-Царкоўных Крысь Герасімюк і Томаш Скурскі. Яны перайшлі ў чаивеоты клас.*
*Фота Я. Чэрнякевіч.*

## ПАЗНАЕМ ПРЫРОДУ

### ШЭРАЯ МУХАЛОЎКА

На пачатку чэрвеня я вярнуўся ў Відава з Зялёнай Гуры. Адмыкаючы дзверы, заўважыў ля дзвярэй у скрыпцы, дзе ляжалі асёлкі для вастрэння касы, маленькае гняздо, прыгожа сплеценае з конскага воласу. Гняздзечка было яшчэ пустое. На другі дзень глянуў і ўбачыў два малыя ячкі. А з гнязда зляцела маленькая птушачка і села непадалёк на яблыню. На трэці дзень прыбыло яшчэ ячка.

Некалькі дзён я не заглядаў у гняздо, а калі глянуў, налічыў шэсць яек. Цяпер птушка ўжо не сыходзіла з гнязда. Сядзелі на яйках на змену — мама і тата. Злятагалі зрэдку пакарміцца, але скрынка заставалася на сонейку, у цёплым куточку.

Тыдняў праз два рана ўстаю і бачу — шэсць голенькіх птушанят у гняздзе варушыцца. Прыглядаюся, а бацькі ўжо над маёю галавою гармідар робяць, спрабаваў дакрануцца да птушанят, а бацькі мне руку дзяўбуць.

Тыдзень малыя мухалоўкі былі сляпымі, а бацькі кармілі іх, і тады стаяў вялікі свергат.



Мне прыемна было, што ў мяне гадуецца такая вялікая сям'я птушанят. Паступова птушаняты пачалі абрастаць пер'ем. Тыдняў праз чатыры я ўбачыў адно нежывое птушаня. Яно вісела за валасок, зачэплены за ножку на знешнім баку гнязда. Відаць, птушкі прабавалі выкінуць здохлае птушаня з гнязда. Птушаняты падрасталі, і ім у гняздзе рабілася ўсё цясней. Яны ўжо не баяліся мяне, некалькі дзён пазней у гняздзе ўжо засталося толькі тры птушаняткі. Два нежывыя ляжалі на зямлі, а трэцяе было яшчэ жывое. Я асцярожна ўзяў яго і паклаў назад у гняздо.

Вярнуўся я аднойчы з фэсту, а ў гняздзе ніводнага птушаняці. Разглядаюся вакол. Адно сядзіць недалёка на лісточку лекарскага зелля дзевясіла (урочніч звычайны, дзядоўнік — гэта мясцовыя назвы дзевясіла). Узяў я птушаня і паклаў у гняздо. Іншых не знайшоў. Яшчэ раз праверыў у энцыклапедыі — птушачка называецца шэрая мухалоўка.

Стражнік прыроды
Андрэй Гаўрылюк
Мал. Б. Рудкоўскіна

# СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

## ЦЯЧЭ ВАДА Ў ЯРОК

*БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ ПЕСНЯ*

Памерна, з цеплынёй

Цячэ ва-да ў я-рок, ця-чэ ва-да ў я-рок, кла-да-чку за-ня-сло, кла-да-чка то-нень-ка, ва-да ха-ло-дзень-ка, а я ма-ло-дзень-ка. Кла-да-чка то-нень-ка ва-да ха-ло-дзень-ка, а я ма-ло-дзе-нь-ка.

Цячэ вада ў ярок,
Цячэ вада ў ярок,
Кладачку занясла.

Кладачка тоненька, }
Вада халодненька, } 2 р
А я малодзенька.

Вочы мае чарны,
Вочы мае чарны,
Чаго вы косіце!

Бо яго тут няма, }
Бо яго тут няма, } 2 р.
Каго вы любіце.

Іванка не прыйшоў,

Іванка не прыйшоў,
Я да яго пайду.

Вадзіцы з крыніцы }
Вадзіцы з крыніцы } 2 р
Я яму аднясу.

Вады піць не буду,
Вады піць не буду,
Вадзіца чараўна.

Люблю Марусю я, }
Люблю Марусю я, } 2 р.
Маруся суджана.

Паўтараецца першы куплет.

Суддзя: — А дзе вы мелі схаваныя грошы, якія ў вас украў гэты чалавек, тады ноччу ў цягніку?

Жанчына: — А вось тут, мілыя мае, за панчохаю...

Суддзя: — І вы не чулі, як ён вам калі нагі шнырыў?

Жанчына: — Чула, мілыя мае, чаму ж не чула, але я думала, што гэта ён у... добрых намерах...

# НІЎКА

— Апошні раз пытаю: бярэш унука? Ці я яго аддам у Дом дзіцяці!

## НЕ ЎСЮДЫ РАСЦЕ

— Праўда, што ты расцеш толькі дома? — пытае сын у бацькі.

— Чаму ты так думаеш?

— Мама казала цёці, што на рабоце не расцеш.

*

Муж: — Я не хачу, каб ты каротка стрыглася!

Жонка: — Ах, вось як? А ты пытаў маёй згоды, калі станавіўся лысым.

— Смялей, прафесар я дрэсіраваны...

Быў з самім сабой на „Вы“ — шанаваў асабісты аўтарытэт.

Мікола Зянькові́ч

# ВЫХАДНЫ ДЗЕНЬ

Я скончыў есці і выцер рот рукавом.

— Мілы, не трэба так, — ласкава папрасіла яна. — Вазьмі, калі ласка, сурвэтку...

— Якая розніца? — ускіпеў я. — Сурвэтка, сурвэтка... Вечна чапляешся.

— Што ты, міленькі... Я ж з такой любасцю іх прасавала. Чысцюткія, свежыя, накрухмаленыя.

Я сядзеў нахмураны.

— Ідзі, мілы, паляжы на канапе. А я посуд памыю. Ой, прабач, зусім забылася: зараз збегаю газетку прынясу.

Калі яна прынесла „Футбол-хоккей“, я ляжаў на зручнай канапе і глядзеў у столь.

— Мо тэлевізар уключыць?

— Не трэба, — буркнуў я. — Так паляжу.

— Паляжы, паляжы, родненькі, — згадзілася яна. — А я хуценька ў кухні прыбяру.

Я ляжаў і слухаў, як цурчэла вада з крана і ледзь чутна дзынкаў посуд.

— Ты паляжы, паляжы, мілы — скрозь дрымоту пачуўся яе голас. — Я хутка вярнуся. Толькі ў пральню скокну — бялізну здам. Не паспела ўчора. Уборку ў кватэры рабіла, — вінавата дадала яна.

Я перавярнуўся на другі бок.

— Прачнуўся? А я табе сюрпрыз падрыхтавала. Гэта вось піва, а гэта... Ведаеш, што? Ішла ў пральню, па дарозе заскочыла ў гастраном. А там воблу даюць. Пастаяла, ну і піва за адно прыхапіла. Пі, мілы. Ой, чым гэта ў нас пахне? Не інакш, вячэра падгарэла...

Піва было цёплае. Я сказаў, каб яна паставіла яго ў халадзільнік.

Яна ўключыла тэлевізар. Перадавалі хакей. Я пераехаў з канапы ў мяккае крэсла. Мне было добра.

Час ад часу яна падыходзіла да мяне. Я слухаў няўважліва: мяне цалкам займаў тэлевізар. Здаецца, яна гаварыла, што вячэру згатавала, булён на заўтра для дзяцей зварыла, штаны і кашулю мне адпрасавала.

Хакей скончыўся. Я зірнуў у праграму: нічога цікавага. Выключыў тэлевізар. Пазяхнуў. Рабіць не было чаго

Я зноў лёг на канап...

— Чым жа дапамагчы табе, мілы?

Яна была ў роспачы. Кінула сваё шыццё і глядзела на мяне вялікімі вачыма.

— Успомніла! — раптам узарвалася яна. — Я ж прынесла нешта табе з работы. Гэта ж трэба — забылася!

Праз хвіліну перада мной ляжаў тоўсты том у стракатай вокладцы.

— Сучасны замежны дэтэктыў! — усклікнуў я.

— Чытай, мілы, — сказала яна. — Чытай. А я буду дашываць сукенку.

Мне было добра.

Калі я адклаў кнігу, каб глынуць піва, яна перасела на канапу.

— У панядзелак бацькоўскі сход. Папрашуся на рабоце, каб адпусцілі раней. Дарэчы, нешта краны пачалі прапускаць ваду. Трэба слесара выклікаць. Мо ты забяжыш у домакіраўніцтва?

— Зноў я! Колькі разоў гаварыў: няма ў мяне часу! Заўтра я... я...

Ліхаманкава думаю, якую ж прычыну прыдумаць.

Яна падказала:

— Скажы, што заўтра пасля работы ў цябе вучоба.

Я зірнуў на яе са здзіўленнем.

Яна, як ні ў чым не бывала, працягвала:

— Тата заўжды на вучобу спасылаецца. Або на нараду. Спадзяюся, у аўторак ты не заняты?

— У аўторак? — задумаўся я. — А што трэба зрабіць у аўторак?

— Як што? Схадзіць у гаспадарчы магазін, купіць фарбы. Ты зірні толькі на наш балкон! Даўно прывесці трэба ў парадак.

— Не, у аўторак не магу, — рашуча сказаў я. — У аўторак у мяне... у мяне...

— Скажы, што ў аўторак дамовіўся ісці на футбол.

Я не паспеў нічога сказаць, бо ў дзверы пазванілі.

— Не інакш, Каровін, — прамовіла яна. — І, як заўсёды, за табою. Казла ў двары забіваць.

На парозе сталі мама і тата Яны вярнуліся з гасцей.

— Ну, як вы тут без нас?

— Добра, мамачка. Мы з Вадзікам цікавую гульню прыдумалі. Пра выхадны дзень, — і мая сямігадовая сястрычка радасна рассмяялася.

## КАСТУСЁВА ЛЯКАРСТВА

— Чаго стогнеш, Мікалай?

— Жывот баліць. Мусіць рыба прыпсутая была ў смажальні.

— Дык не ведаеш што рабіць? Водкі трэба выпіць і як рукою адыме, — пераконваў Кастусь. І пераканаў. Мікалай хутка прынёс паўлітроўкі чыстай.

— Водка, браток, на ўсе нястраўнасці, на ўсе атручанні — першае лякарства, — тлумачыў, — і пачаў наліваць не ў чарку, а ў шклянку. Выпілі раз і другі. Кастусь разгаварыўся, а Мікалай стаў моршчыцца, вэкаць, кінуў усё і пабег дамоў. Сустрэў яго сабачка і падскакваў перад ім. Мікалай не ласкаў яго, а адганяў ад сябе, бо ў жываце ў яго пераварочвалася. Пачало яго рваць так, што ён запаскудзіў паднаворак і сабачку.

Калі ўваходзіў у свой пакой, усунуўся касматы Пупсік і адразу скочыў на ложак і падушку гаспадыні, моцна брудзячы пасцель.

А што дзеялася далей, дык няхай Бог крые, не расказаць. Назаўтра Мікалай шукаў новай кватэры, наракаючы на Кастусёва лякарства.

(мх)

МІЖ НАМІ

Мы марнуем час, але ён таксама не застаецца ў даўгу.